*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

**№ 129 (711)**

Субота, 17 ліпеня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля



**Сегодня белорусские рабочие получают 30—40 долларов в месяц. Российские — 150—180, литовские — 150—200, польские — 300—400. Большинство наших пенсий и пособий — ниже прожиточного уровня. Во многих семьях забыли вкус рыбы, мяса, фруктов.**

**Несмотря на очевидные провалы своей экономической политики, президент заявляет о промышленном росте, об успехах и победах. Торжества, праздники, "базары", "дожинки" стали обычным явлением для современной Беларуси. Иногда нам кажется, что президент больше хоккеист, чем глава государства.**

**...Мы призываем трудовые коллективы республики 21 июля 1999 года в нерабочее время выразить свое отношение к происходящему. Любая власть должна быть подконтрольна народу, потому что народ и есть источник власти.**

*(Из обращения Национального съезда рабочих Беларуси к народу Республики Беларусь.)*

**Стоп-кадр**



І ў нясцерпную летнюю спёку, як і ў зімовую сцюжу, у гарадскога пейзажа нязменная дэталь — чэргі ля прадуктовых магазінаў... Гэты здымак зроблены на вуліцы Кірава ў Мінску.

## Брэсцкая апазіцыя актыўна рыхтуецца да 5-гадовага юбілею прэзідэнцтва А.Лукашэнкі

Прадстаўнікі апазіцыйных партый Брэста і вобласці не збіраюцца заставацца ў баку ад мерапрыемстваў, што мяркуюцца да пяцігадовага юбілею праўлення першага беларускага прэзідэнта.

Як стала вядома БелаПАН, на 20 ліпеня запланаваныя народныя "гулянні" у гарадскім парку культуры і адпачынку. 21 ліпеня брэстчане, што пажадаюць узяць удзел у мінскіх акцыях апазіцыі, змогуць паехаць у сталіцу — арганізатары абяцаюць аплаціць ім харчаванне і праезд. У той жа дзень сваю чарговую акцыю маюць намер правесці актывісты Беларускага народнага фронту — на брэсцкім стадыёне "Будаўнік". Мясцовая міліцыя ўжо атрымала адпаведныя ўказанні па "папярэджанні беспарадкаў".

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

**Надвор'е**

17 і 18 ліпеня па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, ва ўсходніх раёнах кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўночна-заходні, 3—8, пры навальніцах парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +10...+15, удзень — +20...+25; 18-га па захадзе да +27.

Пр. Марфы, Андрэя, Багдана, Фёдара, Фядота, Яфіма.
К. Ядвігі, Аляксея, Багдана.

ЛІПЕНЬ **17** '99 СУБОТА

Усход 5.00
Захад 21.31
Даўж. дня 16.31

Перш. квадра 20 ліпеня
Захад 0.21
Усход 11.27

Пр. Ганны, Апанаса, Сяргея.
К. Каміла, Шымана.

ДЗЕНЬ МЕТАЛУРГА

ЛІПЕНЬ **18** '99 НЯДЗЕЛЯ

Усход 5.01
Захад 21.30
Даўж. дня 16.29

Перш. квадра 20 ліпеня
Захад 0.40
Усход 12.37

Пр. Юльяны, Валянціна, Васіля.
К. Вадзіслава, Вінцэнты.

ЛІПЕНЬ **19** '99 ПАНЯДЗЕЛАК

Усход 5.03
Захад 21.29
Даўж. дня 16.26

Перш. квадра 20 ліпеня
Захад 0.58
Усход 13.45

**Позиция**

## Белорусские парламентарии намерены исполнить 21 июля 1999 года свою конституционную обязанность

Верховный Совет Республики Беларусь 13-го созыва соберется на очередную сессию 21 июля 1999 года. Решение об этом принято на собрании белорусских парламентариев 15 июля. На сессии будут рассмотрены кадровые вопросы, вытекающие из статьи 105 Конституции Республики Беларусь 1994 года. Данная статья вступает в силу с 00 часов 21 июля 1999 года, вследствие окончания 20 июля этого года пятилетнего срока пребывания у власти первого президента страны.

Как известно, Центральная комиссия по выбором президента, назначенная депутатами Верховного Совета 13-го созыва, признала майские 1999 года выборы президента Республики Беларусь недействительными. А Основной закон нашего государства (раздел IV) не предусматривает иной процедуры продления полномочий главы государства, кроме как через выборы. В соответствии с Конституцией 20 июля с.г. полномочия Александра Лукашенко как первого белорусского президента заканчиваются. И в связи с невозможностью дальнейшего исполнения им своих обязанностей полномочия главы государства переходят к председателю Верховного Совета 13-го созыва.

Однако нынешний режим отчаянно цепляется за власть. О противодействии президентских структур работе Верховного Совета средства массовой информации сообщали неоднократно. Последний раз об изгнании парламентариев из зала заседания под предлогом разминирования "Народная воля" сообщала 26 июня 1999 года (N115). Не стало исключением и 15 июля. Автобус с депутатами сопровождало около десятка машин спецслужб.

На этот раз Верховный Совет собрался в санатории-профилактории "Лазурный" под "бдительной охраной" автомашин спецслужб со звукозаписывающей аппаратурой, расположившихся у окон зала заседаний и ведших "прямую трансляцию" хода заседания. Депутаты обговорили принципы рассмотрения кадровых вопросов, вносимых в повестку дня сессии 21 июля, и избрали членом президиума Верховного Совета 13-го созыва Мечеслава Гриба, руководителя парламентской фракции социал-демократов.

**Валерий ЩУКИН, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

## Заявление Политсовета Объединенной гражданской партии

20 июля 1999 года истекает пятилетний срок пребывания А.Лукашенко в должности президента Республики Беларусь. Его попытка продлить свои полномочия еще на два года путем фальсификации результатов референдума (ноябрь 1996 года) юридически ничтожна, противоречит Конституции Беларуси и не признана мировым сообществом. Поэтому после 20 июля 1999 года высшая государственная власть в стране не может считаться легитимной, а А.Лукашенко не может рассматриваться иначе как узурпатор.

Политсовет ОГП отдает себе отчет в том, что реальная власть в стране фактически захвачена правящей верхушкой и уступать ее она не намерена. В то же время дальнейшее ухудшение экономического и политического положения вынуждает А.Лукашенко искать любую возможность для сохранения власти в своих руках, в том числе путем ликвидации независимости Республики Беларусь. Указанные действия Политсовет ОГП рассматривает как государственное преступление, в связи с чем заявляет, что любые решения узурпатора в отношении международных договоров Беларуси являются незаконными и не имеющими юридической силы, а все участники этих деяний должны быть привлечены к ответственности.

Единственным путем разрешения кризиса власти в Республике Беларусь, возникшего по вине А.Лукашенко, Политсовет ОГП считает переговоры властей и оппозиции при участии Верховного Совета 13-го созыва при посредничестве международных организаций, прежде всего ОБСЕ, для достижения компромисса по вопросу выхода страны из политического тупика и легитимизации власти. Политсовет ОГП полагает, что все политические силы страны должны осознать свою ответственность за ее судьбу и сделать все возможное для предотвращения исключительно опасного развития ситуации в сторону конфронтации.

ОГП — сторонница демократического и правового развития общества. Мы хотим строгого соблюдения Конституции и законов страны всеми участниками политического процесса. Мы хотим выборности всех органов государственной власти, прежде всего парламента и президента. Мы хотим легитимности государственной власти. Поэтому в целях сохранения гражданского согласия в обществе и соблюдения преемственности власти мы призываем А.Лукашенко вернуться на правовой путь и пойти на переговоры с оппозицией. Мы обращаемся с призывом ко всем политическим силам страны ради будущего Беларуси, ради сохранения гражданского мира потребовать от режима политических переговоров.

Объединенная гражданская партия подтверждает свою готовность принять участие в переговорах с властями в составе единого блока всех основных демократических сил, в который входили бы ведущие политические партии, профессиональные союзы, а также общественные объединения и неправительственные организации. У оппозиции есть шанс при поддержке международного сообщества и демократической общественности добиться от А.Лукашенко реальных гарантий конституционного права белорусского народа на свободный выбор своего дальнейшего пути.

*Принято на заседании Политсовета ОГП 8 июля 1999 года.*

**Сітуацыя**

## Нацыянальная бяспека і жыллёва-жывёльныя пытанні ў калгасах і саўгасах

Нядаўна абласная газета "Віцебскі рабочы" паведаміла сваім чытачам аб надзвычайным здарэнні ў Аршанскім раёне. Увагу на яго звярнуў нават Дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь В.В.Шэйман.

Што ж здарылася? Ці натаўская ракета раптоўна ўпала на беларускую зямлю і не выбухнула, ці нехта, накшталт Канстанціна Заслонава, спыніў рух Аршанскага транспартнага вузла, ці яшчэ што?

Не, проста ў Балбасаўскім сельскім выканкаме заблыталася чарга на жыллё, а ў гаспадарках Аршанскага раёна выяўлены факты прыпісак і масавага забою жывёлы. У выніку такога нацыянальна небяспечнага злачынства акурат перад сканчэннем паўнамоцтваў першага прэзідэнта ад займаемай пасады, згодна са службовай цыдулькай сакратара СБ РБ В.В.Шэймана, пазбаўлены старшыня адпаведнага райвыканкама І.А.Голуб, ягоны першы намеснік па сельгаспрадукцыі В.М.Гароднікаў, а таксама старшыня Балбасаўскага сельсавета Н.П.Зарко.

Карціць запытаць: а раней гэта не было відаць? Згодна з апублікаванымі данымі, за апошнія пяць гадоў кіравання новай "народнай" улады ў Аршанскі райвыканкам прыйшло 402 звароты па жыллёвым пытанні, у тым ліку 60 — з Балбасава. Але яны не сталіся прычынай для прыняцця дзейсных захадаў на карысць вырашэння ўзнятых праблем.

Далей. У калгасах "Чырвоны Кастрычнік", "Запаветы Ільіча", "Камінтэрн", "Барацьбіт", імя Леніна ды іншых дапускаліся прыпіскі ў надоях малака, на сяўбе азімых ды яравых.

Нечакана высветлілася, што з-за чагосьці калгаснікі "Ленінскай іскры" сёлета ўзімку вымушаны былі давесці 303 галавы дойнага статку (кароў) да схуднення, а затым — да масавага забойства. Гэтак жа і ў калгасе "Запавет Ільіча" вымушаны былі забіць 122 жывёлы.

Што гэта? Беларусы развучыліся рыхтаваць сена на зіму? Ці тая калгасна-саўгасная сістэма, якую не раз абараняла кіраўніцтва дзяржавы, не здольна стымуляваць працу людзей?

Па выніках разгляду "нацыянальна-небяспечнага" пытання вінаватай аказалася менавіта мясцовая ўлада. Але ж "вертыкаль" знізу даверху камплектуе вышэйшая ўлада.

Артыкул у абласной газеце з паведамленнем аб гэтых падзеях называецца "Віноўныя пакараныя". Але ці сапраўды так?

Якія правілы гульні, такія і гульцы.

**Юрась КАРПАЎ.**

**Стоп-кадр**



Сямейная пара Матруна і Фёдар Дашкевічы з вёскі Раманішчы Кастрычніцкага раёна. Ці думалі яны, што сённяшняе жыццё будзе такім цяжкім?

**Фота IREX/ProMedia.**

## Падчас правядзення несанкцыянаванага пікету ля Адміністрацыі прэзідэнта была затрымана праваабаронца Любоў Лунёва, якая назірала за правядзеннем акцыі

14 ліпеня прыкладна з 13.10 да 14.30 ля будынку Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь маці 19-гадовага Антона Бандарэнкі, асуджанага да вышэйшай меры пакарання, Наталля Шэдзько правяла пікетаванне, спрабуючы дамагчыся сустрэчы з А.Лукашэнкам. На плакаце, які трымала ў руках Н.Шэдзько, было напісана: "Мой прэзідэнт, захавайце жыццё майго 19-гадовага сына!"

За ўчыненне ў жніўні 1997 года забойства двух чалавек, састарэлай жанчыны і яе 10-гадовага ўнука, А.Бандарэнка па артыкуле 100 Крымінальнага кодэкса РБ быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Вярхоўны суд пакінуў прысуд у сіле. Паводле слоў маці, яе сын быў толькі саўдзельнікам, але сам не забіваў.

Вядомая беларуская праваабаронца Любоў Лунёва, якая прысутнічала на пікеце, на працягу некалькіх месяцаў займалася справамі 6 чалавек, асуджаных да смяротнай кары. Па справах двух асуджаных да вышэйшай меры пакарання — Івана Фаміна і Сяргея Забабурына — ў яе ўзніклі сур'ёзныя сумненні ў доказе абвінавачвання. Скаргі па гэтых справах былі пададзены ва ўсялякія судовыя інстанцыі, у камісію па памілаванні, асабіста А.Лукашэнку, у розныя міжнародныя арганізацыі. З просьбай не прыводзіць смяротны прысуд у выкананне да прэзідэнта Беларусі звярнуліся некаторыя праваабарончыя арганізацыі, напрыклад, "Хьюмен Райтс Вотч", прадстаўнікі каталіцкай царквы. Аднак 23 чэрвеня Фамін і Забабурын былі расстраляныя.

Паводле слоў Л.Лунёвай, раней у следчым ізалятары ГУУС Мінгарвыканкама ў летнія месяцы смяротныя прысуды звычайна не прыводзіліся ў выкананне. Аднак спешка са стварэннем саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі і апасенне, што Расія, якая з'яўляецца членам Савета Еўропы і аб'явіла мараторый на выкананне смяротных прысудаў, запатрабуе гэтага ж і ад беларускіх улад, паводле слоў А.Лунёвай, прывяла да таго, што ў чэрвені ў СІЗА ГУУС Мінгарвыканкама былі прыведзены ў выкананне смяротныя прысуды ў дачыненні дзесяткаў чалавек, якія тайна, па начах, былі пахаваныя на могілках Мінска.

Пікетчыца ля будынку Адміністрацыі прэзідэнта была блакіравана супрацоўнікамі міліцыі, якія на працягу паўгадзіны ўгаворвалі жанчыну згарнуць плакат. У адказ яна прасіла дзве хвіліны аўдыенцыі ў А.Лукашэнкі, каб выказаць сваю просьбу і, можа быць, захаваць жыццё свайму сыну. У 14.30 Наталля Шэдзько была затрымана і дастаўлена ў гарадскі аддзел міліцыі па вуліцы К.Маркса, 30. Туды ж даставілі і праваабаронцу Любоў Лунёву, заявіўшы, што яна падбухторвала жанчыну да правядзення акцыі і праявіла непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі аб спыненні пікетавання. Праз гадзіну Любоў Лунёва была адпушчана, Наталля Шэдзько затрымана на тры гадзіны з прычыны ўчынення адміністрацыйнага правапарушэння.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## Закрыты для адпачываючых дванаццаць пляжаў на вадаёмах Брэсцкай вобласці...

Па рашэнні адміністрацыі Івацэвіцкага, Камянецкага, Жабінкаўскага, Баранавіцкага і Драгічынскага раёнаў Брэсцкай вобласці вырашана закрыць для адпачываючых дванаццаць пляжаў на шэрагу рэк і вадаёмаў. Больш за ўсіх не пашчасціла жыхарам Баранавічаў і вёсак, што размешчаны побач. Тут урачы-эпідэміёлагі прызналі непрыгоднай для купання ваду ў азёрах Свяцілаўскае, Жлобінскае, Мышанка, Паўлінава, а таксама забаранілі адпачываць на пляжах у вёсках Вільна і Яжоны.

Ва ўсіх вадаёмах, дзе забаронена купанне, нездавальняючыя бактэрыялагічныя і арганалептычныя паказчыкі: вада брудная, з дрэнным пахам, купанне ў ёй можа выклікаць шэраг захворванняў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## ...і ўсе пляжы Гомеля

Усе пляжы Гомеля, размешчаныя на рацэ Сож і азёрах, закрытыя для наведвання — купанне там строга забаронена. Адпаведнае распараджэнне выдаў гарадскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі з-за таго, што апошнім часам у вадзе павысілася ўтрыманне розных небяспечных для здароўя людзей бактэрый, а таксама ў 1,3 раза ўзрасла захворваемасць сярод гамяльчан кішэчнымі інфекцыямі.

Кіраўніцтва гарадской камунальнай гаспадаркі заклапочана і якасцю вадаправоднай вады.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

**Шчырае слова**



*Юрый ХАДЫКА, намеснік старшыні БНФ, прафесар*

## Абое рабое

Час гоіць раны і суцяшае страсці. Вось і спрэчкі вакол прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, што скончылася 16 траўня, яе ролі, яе вынікаў, пайшлі да спаду. І толькі ў БНФ яны кіпяць па-ранейшаму. Бо менавіта БНФ адыграў у мінулай кампаніі ролю супярэчлівую і неадназначную, ледзьве не сарваўшы кампанію пад самую яе заслону. Аднак супярэчнасць, якая падзяліла сяброў і прыхільнікаў БНФ на два лагеры, мае значна большую грамадзянскую актуальнасць, чым проста ўнутрыпартыйныя разборкі. Гэта праблема суадносінаў маралі і палітыкі. Праблемы вечнай і актуальнай для ўсяго свету, а не толькі для Беларусі. Таму і ёсць падставы паразважаць пра іх суадносіны наогул і пра іх рэальныя ўзаемадачыненні на прыкладзе апазіцыйнай прэзідэнцкай кампаніі ў Беларусі.

Справа ў тым, што сферы дзейнасці гэтых паняццяў — маралі і палітыкі — перакрыжоўваюцца не цалкам. Калі палітыка — гэта ў самым спрошчаным выглядзе ёсць дзеянні многіх і ў інтарэсах многіх, то мараль — гэта нормы паводзінаў адной асобы, абавязкова асвечаныя аўтарытэтам веравызнання. Сфера палітыкі рэгулюецца законам, сфера маралі — уласным адчуваннем граху. Іх сферы дзейнасці могуць перакрыцца цалкам толькі ў адным выпадку — калі ўсё грамадства цалкам стане маральным. Зразумела, што гэта немагчыма не толькі ў посткамуністычнай Беларусі, дзе вера ў Бога і мараль разбураліся дзесяцігоддзямі. Гэта немагчыма і ў свабодных дэмакратычных краінах, дзе эгаістычная прырода чалавека вельмі часта бярэ верх над патрабаваннямі маралі. У Евангеллі, напрыклад, сказана — нельга адначасна служыць Богу і мамоне (золату). Аднак жа мы бачым, што большасць служыць менавіта мамоне.

Ці наш беларускі прыклад. А.Лукашэнка, здзейсніўшы дзяржаўны пераварот у лістападзе 1996 года, фактычна прыватызаваў краіну. Зрабіў ён гэта не адзін і не толькі ў сваіх асабістых інтарэсах. А ў інтарэсах таго кола асоб, што "толпою жадною сгрудилися у трона", і пры маўклівай падтрымцы значнай колькасці нашага насельніцтва. Гэта, на жаль, палітыка. Пры гэтым ён парушыў Закон. З вялікай літары таму, што было парушана многа законаў. І парушыў мараль, г.з. зрабіў амаральны ўчынак. Бо ў Дэкалогу (дзесяці прыказаннях прарока Майсея) сказана: не пажадай ні раба, ні вала, ні асла, нічога, што ў доме блізкага твайго. А.Лукашэнка пажадаў і забраў паўнамоцтвы законна абранага Вярхоўнага Савета і незалежнай (па Канстытуцыі) судовай сістэмы. Больш за тое, пачаўшы кіраваць самаўладна і бескантрольна, ён зрабіў грэх самалюбства і славалюбства. Я ўжо не кажу пра вынікі яго кіравання. Тым не менш А.Лукашэнка, як праваслаўны атэіст, ніякага граху не адчувае.

Аднак я не магу ўспомніць ніводнага прыкладу, калі б Мітрапаліт Філарэт ці кардынал Свёнтак у сваіх пастарскіх пасланнях ці казаннях нагадалі б А.Лукашэнку пра неабходнасць прытрымлівацца маральных норм. Хаця першаіерархам Беларусі добра вядомы прыклад св. Яна-Златавуснага, які шмат пакутаваў менавіта за публічнае выкрыццё амаральнасці паводзінаў імператара, што, зразумела, больш, чым прэзідэнт. Перакананы, што прычына такой стрыманасці ў меркаваннях канфесійнай палітыкі.

Яшчэ больш прыкладаў амаральнасці можна сустрэць на ўзроўні дзяржаўнай палітыкі, дзе яны часцей за ўсё прыкрываюцца "дзяржаўнымі інтарэсамі". Насамрэч, такія інтарэсы ёсць і іх абарона неабавязкова амаральна. Беларусь, якая аднавіла сваю дзяржаўную міжнародна прызнаную незалежнасць, мае поўнае маральнае права яе бараніць. Наадварот, гандляваць тым, што табе не належыць, як гэта робіць існуючы рэжым, амаральна. Бо суверэнітэт належыць народу, а не прэзідэнту.

І відавочна амаральнай становіцца дзяржаўная палітыка, калі яна набывае агрэсіўны, экспансіяніцкі характар. Афганістан і Чэчня таму свежыя і выразныя прыклады. Маленькі чэчэнскі народ, які за часы каланіяльнай залежнасці ад Расіі не аднойчы стаяў на мяжы знікнення, быў пазбаўлены сваёй нацыянальнай тэрыторыі і расцярушаны па бязмежных прасторах Сібіры і Казахстана, меў відавочнае маральнае права на незалежнасць. Ён не браў удзел у галасаванні за Канстытуцыю РФ 1993 г., таму ўвядзенне расійскіх войскаў на падставе "абароны канстытуцыйнага парадку" (тыя ж самыя дзяржаўныя інтарэсы) было адкрыта амаральнай акцыяй, прадыктаванай хціўвымі, карыслівымі інтарэсамі. І хаця ў Расіі знайшліся людзі, якія пратэставалі супроць агрэсіі, грамадская свядомасць у цэлым агрэсію падтрымлівала.

Яшчэ горш сітуацыя з маральнасцю Саюза Расіі і Беларусі. Даўно вядома, што ў РФ няма палітычных сіл, ні дэмакратычных, ні антыдэмакратычных, якія б адкрыта выступілі супраць аншлюса Беларусі, які рыхтуе беларускі марыянеткавы антызаконны дыктатарскі рэжым. Пры гэтым людзі, якія завуць сябе дэмакратамі, часам у імкненні атрымаць падтрымку электарата ідуць далей за расійскіх камуністаў, якія хаця б не адмаўляюць беларусам у праве быць нацыяй. Характэрны прыклад даў у сваім апошнім тэлевізійным інтэрв'ю адзін з лідэраў "Яблока" У.Лукін. Вочы гэтага адукаванага чалавека, добра бачныя праз тоўстае шкло акуляраў, адразу затуманіліся, расфакусаваліся, калі ён пачуў пытанне пра ягонае стаўленне да "інтэграцыі" Беларусі і Расіі. І ён пачаў несці (іншага слова цяжка падабраць) замшэлую бязглуздзіцу часоў расійскага самаўладдзя. Яна завецца, быццам у насмешку, славянафільствам. Быццам непрыхаванае імкненне русіфікаваць славянскі народ і прыўлашчыць ягоную зямлю сапраўды можна назваць словам "любоў".

Насамрэч, дыпламату У.Лукіну добра вядома, што саюз паміж Беларуссю і Расіяй можа быць толькі такім, як паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і маленькай краінай на выспе ў Карыбскім моры Пуэрта-Рыка. Гэта іспанамоўная краіна, дзе дзейнічаюць законы ЗША і грашовая адзінка долар, лічыцца "дзяржавай, што добраахвотна далучылася да ЗША". Праўда, камуністы, калі гаворка ішла не пра палітыку СССР, былі больш шчырымі і называлі Пуэрта-Рыка калоніяй ЗША. Такі ж лёс чакае і Беларусь у "Саюзе з Расіяй". Ды яшчэ хуткая русіфікацыя, забыццё сваёй гісторыі і культуры і страта самаідэнтыфікацыі. З той толькі розніцай, што Пуэрта-Рыка "далучылася" да багатых ЗША, а Беларусь — да беднай і крымінальнай РФ.

Гэтыя і многія іншыя прыклады тлумачаць, чаму ў народнай свядомасці папулярна ідэя, што палітыка — брудная справа. Аднак амаральнасць не абавязковая прыкмета палітыкі. Яна больш характэрна для палітыкі папулісцкай, разлічанай на ўздзеянне на цёмныя інстынкты электарату. Але яна абсалютна недапушчальная для палітыкі апазіцыйнай. Апазіцыя, асабліва ў беларускіх умовах, проста вымушана гаварыць народу праўду. Любая хлусня наносіць ёй шкоду і не можа быць апраўдана ніякімі меркаваннямі палітычнай мэтазгоднасці.

*(Працяг на 2-й стар.)*

